# НА РОСТАНЯХ

Будучае любой дзяржавы вызначаецца арыентацыямі яе моладзі. Ад таго, які яна зробіць выбар,— палітычны, эканамічны, сацыяльны — і залежыць заўтрашні дзень краіны. Безумоўна, арыентаванасць маладога пакалення на тыя ці іншыя ідэалы фарміруецца не за дзень-два. Таму цікава і

## З РАБОЧАГА СТАЛА САЦЫЁЛАГА

вельмі карысна будзе прааналізаваць працэс фарміравання палітычных арыентацый нашай моладзі.

Для таго, каб як мага шырэй усвядоміць сітуацыю, якая склалася з палітычнай арыентацыяй і палітычнай актыўнасцю моладзі, неабходна ясна ўявіць, што адбылося ў гэтай сферы за апошнія гады.

Умовы сацыялізацыі дзяцей і падлеткаў мяняліся і працягваюць мяняцца літаральна на вачах. Людзі больш старэйшага ўзросту часта забываюць той факт, што з пачатку перабудовы прайшло ўжо дзевяць гадоў. Гэта азначае, што значная частка моладзі сфарміравалася ва ўмовах крызісу і распаду адзінай камуністычнай ідэалогіі і адзінай палітычнай сістэмы, накіраванай на падтрымку гэтай ідэалогіі. Яна сфарміравалася ўжо ў якасна іншых палітычных умовах, якія значна адрозніваюцца ад брэжнеўскага застою і тым больш ад хрушчоўскага валюнтарызму ці сталінскага дэспатызму. Тыя, каму ў 1985 годзе было сем гадоў, зараз сталі шаснаццацігадовымі падлеткамі. Аднак не толькі яны, але і ўся моладзь мае за сваімі плячыма дзевяцігадовы перыяд перабудовы з усімі яго дасягненнямі і крызісамі, паслядоўнай зменай куміраў.

У дынаміцы палітычнай актыўнасці моладзі з пачатку перабудовы можна адзначыць некалькі этапаў. Напэўна, зараз будзе няправільна лічыць так, быццам да 1985 года ледзь не ўся моладзь разумела зыходную шкоднасць існуючага палітычнага ладу і знаходзілася ў тайнай апазіцыі да савецкага рэжыму. Усё гэта не так. Большая частка падлеткаў і юнакоў, у тым ліку і маладой інтэлігенцыі, шчыра верыла ў магчымасць ажыццяўлення сацыялістычных ідэалаў і барацьбу за лепшае будучае вяла ў межах існуючай ідэалогіі, падтрымліваючы тыя ці іншыя галіны ідэалагічнай ерасі. Але нават і ў тым выпадку, калі асобныя прадстаўнікі маладога пакалення лічылі сябе людзьмі, крытычна настроенымі не толькі да існуючай палітычнай сістэмы, але і камуністычнай і сацыялістычнай ідэалогіі ўвогуле, гэтая ідэалогія, якая ў выніку шматгадовай работы ўжо даўно перайшла на ўзровень грамадскай псіхалогіі, не магла не аказаць уплыў на моладзь. Яна засвойвалася літаральна з дзіцячага садка, пачынаючы з ухваленняў дзядулі Леніна і г.д.

Крызіс і распад камуністычнай ідэалогіі, які пачаўся ў 1985 годзе, аўтаматычна прывёў да крызісу палітычных арыентацый значнай часткі моладзі. Аднак гэты крызіс неаднолькава адбіўся на яе розных прадстаўніках.

Неабходна добра ўяўляць, што ідэалогія існуе на некалькіх узроўнях. У чыстым выглядзе, як стройныя тэарэтычныя веды, яна прысутнічае ў галовах адносна невялікай колькасці моладзі. Для яе большай часткі ідэалогія існуе не ў форме тэарэтычных пабудоў, а ў працэсе сацыялізацыі і не заўсёды нават усведамляецца. У такой форме існаванне ідэалогіі найбольш устойліва і ў найменшай ступені паддаецца змяненням. Чалавек можа шчыра верыць у тое, што ён прытрымліваецца пэўных ідэалагічных перакананняў, але на ўзроўні грамадскай псіхалогіі захоўвае ў якасці нормаў сваіх паводзін іншыя каштоўнасныя рэгулятары.

Мы перажылі перыяд усеагульнага захаплення палітыкай у другой палове 80-х, калі здавалася, што дастаткова ўбраць з уладавых структур стаўленікаў партыйнай наменклатуры, і ва ўмовах палітычнай і эканамічнай свабоды жыццё большай часткі людзей хутка зменіцца ў лепшы бок. На практыцы ўсё аказалася куды складаней. Першы перыяд эйфарыі прайшоў, і ўсе прыйшлі да высновы, што ўбраць партыйную наменклатуру ад кіравання дзяржавай недастаткова для працвітання. Аказалася, што народ з'яўляецца такой жа часткай адзінага сацыяльнага цэлага, што завецца грамадствам, як і правячая эліта, і змяніць толькі яе, не мяняючы народ, недастаткова. Цуд не адбыўся. Прычыны, якія перашкаджаюць паляпшэнню жыцця нашых грамадзян, знаходзяцца не толькі ў крэсле партыйнага функцыянера, але і ў кожным з нас у большай ці меншай ступені. Новая кіруючая эліта ў цэлым і яе прадстаўнікі паасобку часта бываюць не лепш (а то і горш) сваіх папярэднікаў.

Вынікам таго, што не спраўдзіліся надзеі на хуткі пераход да дабрабыту, стала ладзенне інтарэсу да палітыкі, разгубленасць і адчай, для некаторых — пошук уласных шляхоў выратавання ад хутка падаючага ўзроўню жыцця. Палітыку многія памянялі на бізнес. Кола інтарэсаў моладзі ўсё больш замыкаецца на сабе і сваёй сям'і.

Зараз мы і знаходзімся на гэтым этапе. Відавочна, што наперадзе фарміраванне новых сацыяльных груп, якія будуць мець свае інтарэсы. Тады ж адбудзецца і афармленне іх палітычных інтарэсаў, іх палітычнай арганізацыі, ад чаго і будзе залежыць далейшы лёс нашай краіны.

**Я. ЛІВЕРОЎСКАЯ,**
**сацыёлаг.**

# Ген, які правакуе рак

Дзве групы вучоных выявілі пашкоджаны ген, адказны за ўзнікненне наследчай формы рака тоўстай кішкі. Абедзьве групы, якія праводзілі даследаванні незалежна адна ад другой, аб'явілі, што ім удалося выявіць ген, які іграе пэўную ролю ва ўзнікненні непаліпознай формы рака тоўстай кішкі. На долю гэтай формы рака прыпадае кожны шосты выпадак ракавага захворвання тоўстай кішкі ў заходніх краінах.

Тыя, хто ўнаследваў дэфектны ген, мацней за іншых падвержаны небяспецы захворвання на рак, у тым ліку матачны, страўнікавы і аварыяльны.

Гэтаму адкрыццю папярэднічала выяўленне ў снежні мінулага года гэтымі ж групамі вучоных другога гена. Спалучэнне гэтых двух пашкоджаных генаў выклікае больш за 90 працэнтаў усіх выпадкаў захворвання на непаліпозную форму рака тоўстай кішкі.

Вучоныя сцвярджаюць, што адкрыццё можа садзейнічаць распрацоўцы метадаў абследавання для прадухілення падвержанасці такога роду хваробам людзей. Калі ў выніку абследавання высвятляецца, што чалавек падвержаны захворванню на рак, то больш інтэнсіўная каланаскапія, змены ў дыеце і ранняе медыцынскае ўмяшанне могуць стаць эфектыўным сродкам для папярэджвання смяротнага зыходу пры такіх захворваннях.

цыяльна-значную накіраванасць.

2. Да аб'ектаў ІУ не маюць дачынення творы народнай творчасці, аўтары якіх невядомыя, афіцыйныя дакументы (прававыя акты, рашэнні судовых або следчых органаў, органаў пракуратуры і г.д.), афіцыйныя сімвалы, зацверджаныя ва ўстаноўленым парадку дзяржаўнымі ці грамадскімі органамі і арганізацыямі (флагі, гербы, грашовыя знакі, дзяржаўныя ўзнагароды і інш.).

**АРТЫКУЛ 8. Асновы ўзнікнення права інтэлектуальнай уласнасці**

1. Права ІУ узнікае на аснове:
— грамадска-прававога дагавору;
— выканання службовага ці спецыяльнага задання згодна з працоўным дагаворам (кантрактам);
— самастойнай ініцыятыўнай дзейнасці фізічных або юрыдычных асоб.

2. Асновы ўзнікнення права ІУ адрозніваюцца ад асноў пераходу дадзенага права да іншых асоб у парадку атрымання ў спадчыну або іншых формаў правапераемнасці.

**АРТЫКУЛ 9. Грамадска-прававы дагавор як аснова ўзнікнення права інтэлектуальнай уласнасці**

1. Грамадска-прававы дагавор, прадметам якога з'яўляецца стварэнне ІУ, можа прадугледжваць палажэнні, якія вызначаюць у адпаведнасці з дадзеным законам умовы ажыццяўлення правоў і абавязкаў бакоў, што заключаюць дамоўленасць.

2. У грамадска-прававым дагаворы вызначаюцца маёмасныя правы бакоў, выпадкі і парадак афіцыйнага засведчання вынікаў інтэлектуальнай дзейнасці, забеспячэнне канфідэнцыяльнасці, умовы ўступкі (перадачы) маёмасных правоў на ІУ іншым асобам, віды і меры адказнасці за парушэнні дадзенага права, парадак вырашэння спрэчак, якія ўзнікаюць пры рэалізацыі і ахове права ІУ, а таксама іншыя ўмовы, што вынікаюць з дагавору.

**АРТЫКУЛ 10. Правы інтэлектуальнай уласнасці, што ўзнікае пры выкананні службовага ці спецыяльнага задання**

1. Права ўласнасці на ІВ, створаную пры выкананні службовага ці спецыяльнага задання, узнікае на аснове дагавору (кантракта) стваральнік (аўтара) з юрыдычнай асобай, па заданню якой створана ІВ.

Пры адсутнасці дагавору (кантракта) права ІУ, што ўзнікае на аснове выканання службовага ці спецыяльнага задання, належыць яго стваральніку (аўтару).

2. Права прыярытэтнага і безвыплатнага выкарыстання ІВ, створанай у адпаведнасці з заданнем і ў межах, што вынікаюць з яго, належыць юрыдычнай асобе, па заданню якой створана ІВ.

Дзеючым заканадаўствам могуць устанаўлівацца тэрміны выкарыстання ІВ юрыдычнымі асобамі, па заданню якіх яны былі створаны. Па сканчэнні гэтых тэрмінаў стваральнік (аўтар) набывае ўсю паўнату правоў на распараджэнне сваёй уласнасцю.

Пераважнае права на набыццё дадзенай ІВ ва ўласнасць належыць юрыдычнай асобе, па заданню якой створана ІВ.

3. Калі ў ходзе выканання службовага ці спецыяльнага задання стваральнік (аўтар) атрымаў вынік, не прадугледжаны такім заданнем і маючы самастойнае значэнне, то аўтар набывае права ІУ на створаны прадукт незалежна ад умоў дагавору (кантракта). Пераважнае права на выкарыстанне і набыццё такога прадукта належыць юрыдычнай асобе, па заданнях якой стваралася ІВ. Парадак і ўмовы выкарыстання выніку, не прадугледжанага службовым ці спецыяльным заданнем, вызначаюцца па меркаванню аўтара.

**АРТЫКУЛ 11. Правы інтэлектуальнай уласнасці, што ўзнікае на аснове самастойнай ініцыятыўнай дзейнасці**

ІВ, створаная ў выніку самастойнай ініцыятыўнай дзейнасці фізічных ці юрыдычных асоб, у тым ліку пры ажыццяўленні імі якой-небудзь прадпрымальніцкай дзейнасці, якая не прадугледжана грамадска-прававым дагаворам, працоўным дагаворам (кантрактам), службовым ці спецыяльным заданнем, належыць яе стваральніку (аўтару) на правах ІУ.

**АРТЫКУЛ 12. Пераход права інтэлектуальнай уласнасці на аснове атрымання ў спадчыну і правапераемнасці**

1. Да нашчадкаў суб'екта права ІУ пераходзіць права аховы недатыкальнасці, прызнанага ва ўстаноўленым парадку зместу ІВ, права рашэння пытанняў аб яе абнародаванні, а таксама маёмасныя правы стваральніка (аўтара) ІВ.

Да іншых правапераемнікаў суб'екта права ІУ пераходзяць толькі маёмасныя правы стваральніка (аўтара) ІВ.

2. У выпадках, прадугледжаных законам, правапераемнікам суб'екта права ІУ можа быць дзяржава.

3. ІВ, прызнаныя ва ўстаноўленым законам парадку помнікамі гісторыі і культуры, з'яўляюцца дзяржаўнай уласнасцю, распараджэнне і кіраванне якой ажыццяўляецца ад імя народа.

Парадак выкарыстання і ахова ўказаных вартасцей рэгулюецца спецыяльным заканадаўствам.

**АРТЫКУЛ 13. Формы выкарыстання інтэлектуальных вартасцей**

1. Аўтар ці яго правапераемнік могуць ажыццяўляць з ІВ любыя дзеянні, калі яны не супярэчаць існуючаму заканадаўству.

2. Фізічныя і юрыдычныя асобы могуць выкарыстоўваць ІВ на аснове дагавору з суб'ектам права ІУ альбо яго правапераемнікам, акрамя выпадкаў выкарыстання ІВ дзеля задавальнення асабістых патрэб.

3. У адпаведным заканадаўстве могуць прадугледжвацца выпадкі бездагаворнага (платнага ці бясплатнага) выкарыстання ІВ.

**АРТЫКУЛ 14. Абмежаванні права інтэлектуальнай уласнасці**

1. Права ІУ можа быць абмежавана толькі ў выпадках, прадугледжаных заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь, якія рэгулююць узаемаадносіны ІУ і не супярэчаць гэтаму закону.

2. Фізічныя і юрыдычныя асобы могуць быць абмежаваны ў праве выкарыстання ІВ па меркаваннях дзяржаўнай бяспекі ці абараназдольнасці.

3. ІВ можа быць прымусова адабрана з кампенсаваннем яе вартасці дзяржавай у суб'екта права ІУ або яго нашчадкаў у адпаведнасці з асобнай у кожным канкрэтным выпадку пастановай урада Рэспублікі Беларусь.

**АРТЫКУЛ 15. Ахова права інтэлектуальнай уласнасці**

1. Суб'ект права ІУ можа патрабаваць спынення пэўных парушэнняў яго права, хоць бы гэтыя парушэнні і не былі звязаны з пазбаўленнем стваральніка (аўтара) права валодаць, карыстацца і распараджацца ІВ, а таксама кампенсацыі матэрыяльнай і маральнай страты, выкліканай парушэннямі права ІУ.

2. Дзяржава гарантуе ахову права ІУ, а таксама іншых правоў, якія звязаны з інтэлектуальнай дзейнасцю ў духоўнай і матэрыяльнай сферах.

3. У Рэспубліцы Беларусь дзейнічаюць наступныя формы прававой аховы ІВ: патэнты на вынаходкі, патэнты на прамысловыя назвы, патэнты на таварныя знакі і іншыя праваахоўныя дакументы, якія ўстанаўліваюцца спецыяльным заканадаўствам.

4. Ахова парушанага права ІУ ажыццяўляецца ў судовым парадку. У асобных выпадках заканадаўствам можа таксама прадугледжвацца ахова права ІУ у адміністрацыйным парадку.

Прысваенне асабістых немаёмасных і маёмасных правоў стваральніка (аўтара) ІВ ці незаконнае выкарыстанне гэтых правоў, а таксама прымушэнне да сааўтарства, праследуецца ва ўстаноўленым законам парадку.

**АРТЫКУЛ 16. Ахова права інтэлектуальнай уласнасці**

1. У выпадку парушэння законных правоў ці інтарэсаў суб'екта права ІУ ён можа патрабаваць:
— прызнання факта парушэння права ІУ, у тым ліку і ў судовым парадку;
— спынення парушэння права ІУ;
— публікацыі (публічнага прызнання) аб задавальненні патрабаванняў;
— ліквідацыі вынікаў парушэння права ІУ;
— узнаўлення парушанага права.

2. Калі парушэннем права ІУ была нанесена матэрыяльная страта, яна падлягае кампенсацыі. Парадак, умовы і памеры кампенсацыі ўстанаўліваюцца адпаведным заканадаўствам.

Калі суб'екту права ІУ нанесена маральная страта, то яна падлягае кампенсаванню вінаватай асобай.

3. У выпадку незаконнага выкарыстання ІВ яе стваральнік (аўтар) мае права патрабаваць выплаты ўзнагароды, што належыць яму па закону.

4. Праваможны ўладальнік маёмасных правоў на ІВ карыстаецца аховай нароўні з суб'ектам права ІУ.

**АРТЫКУЛ 17. Забеспячэнне міжнароднай аховы права інтэлектуальнай уласнасці**

1. Міжнародная ахова права ІУ забяспечваецца ўдзелам Рэспублікі Беларусь у міжнародных канвенцыях і пагадненнях з іншымі дзяржавамі па ўзаемнай ахове права ІУ.

2. Палажэнні гэтага закону адносна права ІУ сапраўдныя для замежных грамадзян, юрыдычных асоб і міжнародных арганізацый, якія знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а таксама замежных дзяржаў, калі іншае не прадугледжана заканадаўствам Рэспублікі Беларусь або міжнароднымі дагаворамі.

3. Пералік відаў ІВ, якія створаны на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і не падлягаюць экспарту, а таксама тых, якія патрабуюць ліцэнзавання, вызначаецца ўрадам Рэспублікі Беларусь.

**АРТЫКУЛ 18. Заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб інтэлектуальнай уласнасці**

1. Адносіны па стварэнню і выкарыстанню ІВ, што з'яўляюцца аб'ектамі аўтарскага права, права на вынаходку, права на прамысловы ўзор, права на таварны знак, права на фірменнае найменне і іншых, рэгулююцца гэтым законам, а таксама спецыяльнымі заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.

2. Калі міжнародным дагаворам, у якім удзельнічае Рэспубліка Беларусь, устаноўлены іншыя правілы, чым тыя, што вызначаны ў заканадаўстве Рэспублікі Беларусь аб ІУ, то дзейнічаюць правілы міжнароднага дагавору.

***Праект гэтага Закону быў распрацаваны яшчэ ў 1992 г., але на жаль, дагэтуль не публікаваўся і ў друку не абмяркоўваўся.***

